наша свабода

№127(214) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

23 ЛІСТАПАДА 2001 года ПЯТНІЦА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/с 103

тэл. 228-69-18, 210-02-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ



# Гадавіна «чырвонага» рэферэндуму

*24 лістапада 1996 года ў Беларусі адбыўся агульны рэферэндум, ініцыяваны Аляксандрам Лукашэнкам. Дзякуючы яму беларускі кіраўнік гвалтоўна змяніў беларускую Канстытуцыю, разагнаў парламент, штучна падоўжыў свой тэрмін знаходжання на прэзідэнцкай пасадзе і сканцэнтраваў у сваіх руках усе магчымыя і немагчымыя паўнамоцтвы.*

У той час не ўсё кіраўніцтва Беларусі пагадзілася з такімі зменамі. Амаль аднамаментна адбыліся тры адстаўкі – прэм'ер-міністра Міхаіла Чыгіра, міністра працы Аляксандра Саснова і намесніка міністра замежных справаў Андрэя Саннікава.

Прапануем вашай увазе інтэрв'ю з імі, прысвечанае пяцігоддзю гэтай сумнай даты.

### Міхаіл Чыгір: «Мне непатрэбныя дзяржаўныя пасады»

***– Міхаіл Мікалаевіч, як бы вы сёння ацанілі тыя падзеі 1996 года, якія прывялі вас да гучнай адстаўкі? Як вам тады працавалася ва ўрадзе?***

– Мы перайшлі ад картак да рынкавай сістэмы кіравання эканомікай. Адбываліся падвышэнні цэнаў, зацікаўліваліся вытворцы. Гэта ўдавалася з вялікімі цяжкасцямі. Звычайна я рабіў эканамічныя крокі, калі Лукашэнка з'язджаў за мяжу. Мне было вельмі цяжка праводзіць эканамічныя рашэнні, але я гэта рабіў.

Калі атачэнне Лукашэнкі дзейнічала разам і дакладна, то тады ён прымаў такія рашэнні, якія патрэбна. Трэба было настойваць, як мы з Багданкевічам заўсёды рабілі. Я калі не мог пагадзіцца з Лукашэнкам, заўсёды адстойваў свой пункт гледжання. Але ўсё радзей можна было дачакацца ўхвалення маіх ідэяў. Ад нас патрабавалі накіроўваць усе дакументы да іхняга прыняцця ў адміністрацыю прэзідэнта на ўзгадненне.




Фота IREX/ProMedia

Мне даводзілася шмат пераконваць Лукашэнку, што трэба адмовіцца ад рэферэндуму. Калі гэта не атрымалася, то я зразумеў: заставацца – гэта значыць прымаць удзел. І пайшоў.

Я мяркую, што пасля гісторыя прызнае: той рэферэндум быў страшэннай памылкай для Беларусі, у якой былі вельмі цяжкія наступствы.

***– Скажыце, чым адрозніваецца ўрад Чыгіра – і ўрад Лінга, Ярмошына, Навіцкага?***

– У на была нармальная каманда. Мы захавалі прынцып пераемнасці, скарысталі досвед старых кадраў, але і прывялі новых добрых людзей.

Заканчэнне на стар.3

## Недавер кіраўніцтву міністэрства спорту і НАК

*Напярэдадні сходу Нацыянальнага алімпійскага камітэту сябры грамадзкай кансультацыйнай рады НАК абвесцілі пра сваю нязгоду зь дзеяньнямі кіраўніцтва міністэрства спорту і турызму, а таксама Нацыянальнага алімпійскага камітэту. У часе пазачарговага паседжаньня актыву міністэрства спорту некаторыя славутыя спартоўцы дэманстратыўна пакінулі залю.*

Кіраўніцтва НАК, а за ім і дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі сход называюць лёсавызначальным. Але насуперак «адзінаму памкненьню» некалькі былых спартоўцаў міжнароднай славы прадэманстравалі сваю нязгоду з захадамі кіраўніцтва міністэрства і Алімпійскага камітэту. Іхнае меркаваньне: цяперашнія дзяржаўныя чыноўнікі ня здольныя вырашыць комплекс спартовых праблемаў. Вось што кажа заслужаны трэнэр СССР па фэхтаваньні Аляксандар Фель: «Нам даслалі паперу: запрашаем на сустрэчу з кіраўніцтвам міністэрства спорту і турызму. Але калі мы зайшлі ў залю паседжаньняў, то аказалася, што там 70 папярэдне падрыхтаваных людзей, якія ўжо сустракалі нас ганебнымі выклічамі. Дзяржтрэнэраў «навуськалі» на нас! Нашая «каманда» – гэта кансультацыйная рада НАК Беларусі, створаная ў 1998-м годзе.

Заканчэнне на стар.3

## Уначы з 21 на 22 лістапада Брузгі закрылі

20 лістапада Беларускае тэлебачанне і сталічныя радыёстанцыі паведамілі, што ў гэты дзень ноччу памежны пераход Брузгі будзе закрыты. Дзякуючы такой аднадушнай памылцы раніцай 21 лістапада ў Брузгах была зусім невялікая чарга на выезд – 60 легкавікоў.

Шафёры, якія не паверылі нашаму доблеснаму БТ, ад душы радаваліся, што паспеюць «з апошнім вагонам» выехаць у Польшчу. Прычым, у чарзе ім давялося стаць меней, чым звычайна. Напярэдадні закрыцця сітуацыя ў «Брузгах-Кузніцы» была напружанай. З нашага боку можна было тры гадзіны не скрануцца з месца. У адзін з апошніх дзён шафёры са звычайнай чаргі, давядзеныя да адчаю, кінуліся з каменнем на тых, хто прызвычаіўся карыстацца «левай» чаргой. Дакладней, хто, заплаціўшы грошы, у чарзе не чакаў. З польскага боку ў апошнія выхадныя пераезд праз мяжу займаў 12 гадзінаў! Хуткасць пропуску была 100 машын за тры гадзіны. Такім чынам, калі з гэткім жа імпэтам праходзілі машыны і з адваротнага боку, дык хуткасць пропуску была б 1.600 машын у суткі.

Заканчэнне на стар.3

## Выбары скончыліся – пачаліся арышты

Праз больш чым сем гадоў пасля скандальна вядомага «антыкарупцыйнага даклада» Аляксандра Лукашэнкі кіраўнік дзяржавы пайшоў нарэшце на масавыя арышты чыноўнікаў па абвінавачванні ў карупцыі.

Начальнік Беларускай чыгункі Віктар Рахманько адхілены ад пасады. Супраць яго ўзбуджаная крымінальная справа. Аднак кінуць яго за краты пакуль немагчыма – Віктар Рахманько з'яўляецца членам верхняй палаты Нацыянальнага сходу, «сенатарам», які, дарэчы, быў прапанаваны туды самім А.Лукашэнкам.

Менш пашанцавала Леаніду Калугіну, кіраўніку аб'яднання «Атлант» па вытворчасці халадзільнікаў. Учора Аляксандр Лукашэнка паведаміў публіцы падчас наведвання Рэспубліканскага шпіталю Упраўлення справамі прэзідэнта, што той ужо знаходзіцца ў следчым ізалятары. Асаблівую пікантнасць гэтаму дадае той факт, што ўлетку Л.Калугін кінуў выклік А.Лукашэнку, заявіўшы пра сваё жаданне стаць прэзідэнтам. Аднак дырэктар не здолеў набраць дастатковай колькасці подпісаў на сваю карысць.

Беларускі кіраўнік заявіў, што спіс «карупцыянераў» яшчэ адкрыты – «на чарзе яшчэ чалавек пятнаццаць».

Тым часам, супрацоўнікамі ГУУС Мінска ўчора быў затрыманы дырэктар стадыёна «Трактар» У.Алейнікаў. Яго «павязалі» за атрыманне хабару, што нейкі прадпрымальнік заплаціў дырэктару за арэнду гандлёвых плошчаў на стадыёнаўскім рынку.

А кіраўнік мінскай дзяржаўнай аўтаінспекцыі Анатоль Сідарэня сам пайшоў у адстаўку. Аднак пакуль невядома, ці звязана гэта з апошнімі высілкамі па барацьбе з карупцыяй.

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

## Чарговы канстытуцыйны рэферэндум

Старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі Вадзім Папоў не выключае, што «ужо ў першай палове 2002 года» ў Беларусі можа прайсці чарговы канстытуцыйны рэферэндум. Пра гэта ён заявіў у інтэрв'ю газеце «Советская Белоруссия». На думку спікера, на ўсенароднае абмеркаванне могуць быць вынесеныя пытанні, звязаныя з будаўніцтвам Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі, а таксама пытанні, «датычныя некаторай дэцэнтралізацыі ўладных паўнамоцтваў унутры нашай краіны».

Юрый ПАЦЁМКІН

## РПЦ и белорусский бюджет

Глава 554 проекта бюджета Республики Беларусь предусматривает выделение Белорусскому Экзархату Русской православной церкви денежных средств из государственного бюджета.

Данная позиция проекта бюджета противоречит законодательству Беларуси.

Так, Белорусский Экзархат зарегистрирован в установленном порядке как религиозная организация.

Статья 16 Конституции Республики Беларусь устанавливает равенство всех религий и вероисповеданий перед законом.

Статья 7 Закона «О свободе вероисповеданий и религиозных организациях» регулирует взаимоотношения религиозных организаций и государства. В частности, в законе указано, что государство не вмешивается в деятельность религиозных организаций; государство не финансирует деятельность религиозных организаций; религиозные организации не выполняют государственных функций.

РОО «Белорусский Хельсинкский комитет» считает, что появление в бюджете позиции, противоречащей действующему законодательству, а именно, выделение Русской православной церкви как получающей финансовую поддержку государства, может вызвать нарушение конфессионального равновесия в Республике Беларусь со всеми вытекающими негативными последствиями.

БХК обратился к Президенту и Парламенту с просьбой принять меры для приведения государственного бюджета в соответствие с нормами действующего законодательства.

ПРЕСС-СЛУЖБА БХК

## Сакрэтныя дэпазіты ў Швейцарыі

У 2000 годзе Беларусь была ў ліку краінаў, дэпазіты з якіх найбольш імкліва раслі на сакрэтных рахунках у швейцарскіх банках, паведаміла ўплывовая брытанская газета *Financial Times*. Газета піша, што рэзкі рост дэпазітаў з краіны, якая не мае вялікіх валютных рэзерваў, можа сведчыць аб наяўнасці карупцыі на вышэйшым узроўні яе кіраўніцтва.

Акрамя Беларусі, паводле агляду фінансавага агенцтва *Swissmoney Research*, сярод найбольш дынамічных крыніцаў прытоку грошай на давераныя дэпазіты ў швейцарскіх банках былі Балгарыя, Бангладэш і Гвінея. Давераныя дэпазіты робіцца наяўнымі грашыма, якія пасля пераводзяцца ад імя швейцарскага банка ў банкі па-за межамі Швейцарыі. Гэта дазваляе пазбегнуць швейцарскага падатку на банкаўскія працэнты, а кліенты захоўваюць ананімнасць, піша *Financial Times*. Такія дэпазіты прыцягваюць увагу багатых кліентаў, якія бягуць ад падаткаў у сваіх краінах.

Паводле звестак *Financial Times*, швейцарскія банкі маюць сёння на даверaных дэпазітах суму большую за 550 мільярдаў швейцарскіх франкаў, якія ў асноўным паходзяць з іншых краінаў.

Алесь АБРАМОВІЧ

## Шаноўныя чытачы!

Інфармацыя аб НАШАЙ СВАБОДЗЕ знаходзіцца ў Дапаўненні №1 у падпісным каталозе на першае паўгоддзе 2002 года. Кошт падпіскі на адзін месяц складае 1.787 рублёў.

## У банках зарабляюць утрая болей, чым у калгасах

У верасні ніжэй мінімальнага спажывецкага бюджэту (гэта 87,7 тысячы рублёў) склала заработная плата беларускіх калгаснікаў (81,3 тысячы рублёў). У работнікаў сацыяльнага забеспячэння і таго меней – 75 тысяч рублёў. На іхнім фоне проста багацеямі выглядаюць тыя, хто працуе ў прамысловасці, – 168,2 тысячы рублёў, будаўнікі – 180,7 тысячы рублёў. А ў банкаўскіх служboўцаў і пагатоў – 269,6 тысячы рублёў.

## Электрасувязь падаражэе

Міністэрства сувязі і камунікацыяў выступае за 10-працэнтны рост тарыфаў на паслугі электронных сродкаў сувязі. Гэта робіцца, як тлумачыцца, каб трохі зменшыць страты галіны. Дэбіторская запазычанасць тут зараз складае 50 мільярдаў рублёў.

## Небяспечны ўчастак

Аналізуючы дарожна-транспартныя здарэнні за некалькі апошніх месяцаў на шашы Мінск—Магілёў, ДАІ прыйшло да высновы, што самы небяспечны што да аварыяў участак дарогі з 19 па 22 кіламетры.

## Праца па выхадных

Працоўныя мінскага аб'яднання «Камволь» вымушаныя працаваць нават у выхадныя дні, падае Радыё «Рацыя». Дырэктар аб'яднання выдаў загад, якім перавёў усіх працаўнікоў на рэжым сумаванага працоўнага часу, што фактычна ёсць прымусам працаваць у выхадны дзень з той жа аплатай, як і па буднях. Кіраўнік прадпрыемства ніяк не адрэагаваў на заўвагу сталічнай інспекцыі працы выправіць парушэнне.

## Чырвоная кніга таўсцее

Вучоныя Інстытута эксперыментальнай батанікі Акадэміі навук Беларусі распрацавалі новае, трэцяе па ліку выданне Чырвонай кнігі. Яна будзе нашмат таўсцей за папярэднія выданні.

## НАДВОР'Е



Крыніца: www.gismeteo.ru

## Курс наяўнага долара на «чорным рынку»



1550

## Дабрачыннасці замінаюць падаткі

«Мы лічым неабходным увесці абавязковую працоўную павіннасць для бацькоў, якіх па суду пазбавілі бацькоўскіх правоў», — заявіў у інтэрв'ю БелаПАН прэзідэнт Беларускага дзіцячага фонду Уладзімір Ліпскі. Паводле яго звестак, толькі летась у Беларусі больш за 5 тысяч бацькоў былі пазбаўленыя бацькоўскіх правоў: «Дзяржава і грамадства нясуць цяжар адказнасці за лёсы сацыяльных сіротаў, у той час як іх бацькі гультайнічаюць, вядуць антыграмадскі лад жыцця».

Беларускі дзіцячы фонд — грамадская арганізацыя, створаная ў 1988 годзе. Фонд існуе выключна на добраахвотныя ахвяраванні і ажыццяўляе разнастайную дапамогу беларускім дзецям, перш за ўсё — інвалідам, сіротам, дзецям з малазабяспечаных сем'яў, а таксама «чарнобыльскім» дзецям. За апошнія 5 гадоў Беларускі дзіцячы фонд сабраў ахвяраванняў на агульную суму 500 тыс. долараў, а таксама размеркаваў гуманітарную дапамогу ў памеры 1 млн. 336 тыс. долараў.

Разам з тым, Уладзімір Ліпскі лічыць, што пасьпяховай дзейнасці фонду значна перашкаджае фіскальнае заканадаўства Беларусі. «Няма стымулу ахвяраваць грошы, таму што яны абкладаюцца падаткам. У развітых дзяржавах мецэнацтва заахвочваецца дзяржавай», — сказаў ён.

**Юрый КАСЬЯНАЎ**

## Каледж застаўся без камп'ютэраў

Невядомыя зламыснікі выкралі 11 камп'ютэраў і прынтэры з Магілёўскага эканамічнага прафесійна-тэхнічнага каледжа. Паводле папярэдняй інфармацыі, злачынцы праніклі ў навучальную ўстанову ноччу 19 лістапада, узламаўшы дзверы чорнага ўваходу. Яны вынеслі абсталяванне з камп'ютэрнага класа, які з'явіўся ўсяго тыдзень таму, а таксама скралі камп'ютэр з прыёмнай дырэктара каледжа. Па факце крадзяжу ўзбуджаная крымінальная справа.

**Канстанцін УВАРАЎ**

СПОРТ

## Мільён долараў на Алімпіяду

Сёлета на падрыхтоўку беларускіх спартсменаў да XIX Зімовай алімпіяды ў Солт-Лэйк-Сіці будзе зрасходавана 1,5 млрд. рублёў (1 млн. долараў). З улікам 2000 года сума асігнаванняў складзе 2,5 млрд. рублёў. З гэтых сродкаў 519 млн. рублёў выдаткавана на закупку спартыўнай формы.

Прыярытэт у фінансаванні аддаецца біятлону і фрыстайлу. На другое паўгоддзе для падрыхтоўкі спартсменаў у гэтых відах выдзелена адпаведна 200 і 140 тыс. долараў. У міністэрстве спорту і турызму разлічваюць, што менавіта біятланісты і фрыстайлісты прынясуць Беларусі алімпійскія ўзнагароды.

Для падрыхтоўкі да Зімовай алімпіяды прыцягваліся 118 спартсменаў, з якіх на сённяшні дзень засталіся 85. 69 спартсменаў ужо маюць алімпійскія ліцэнзіі (у 9 відах). Да пачатку Алімпіяды на розных спаборніцтвах ёсць магчымасць дадаткова заваяваць да 19 ліцэнзіяў. Наогул беларуская дэлегацыя ў Солт-Лэйк-Сіці будзе складацца са 129 чалавек.

**Дзмітрый УЛАСАЎ**

ПЕРАСЛЕД

## Не стойце каля пастарункаў

Нягледзячы на тое, што актывісты руху «Зубр» Яўген Афнагель і Мікалай Ткачэнка былі затрыманыя 9 верасня не ва ўрочышчы Курапаты, а каля пастарунка міліцыі, дзе яны чакалі вызвалення сваіх сяброў, затрыманых раней, суддзі прызналі іх вінаватымі ў парушэнні правілаў правядзення масавых мерапрыемстваў (артыкул 167 Кодэкса адміністратыўных правапарушэнняў) і ў непадпарадкаванні законным патрабаванням міліцыі (арт. 166 КАПП).

Мікалая Ткачэнку суддзя Казадаеў прыгаварыў да штрафу ў 5 мінімальных заробкаў. Пры асуджванні Яўгена Афнагеля суддзя Рэлява не адрэагаваў нават на тое, што супрацоўнікі міліцыі, выкліканыя ў якасці сведкаў, блыталіся ў месцы затрымання падсуднага. Аднаго міліцыянта суддзя нават папрасіла намаляваць месца затрымання, але яснасці гэта ў паказанні не ўнесла. І тым не менш Афнагелю таксама быў выпісаны штраф. Суды над Мікітам Сасімам і Раманам Казакевічам перанесеныя на наступны тыдзень па прычыне няяўкі сведкаў-міліцыянтаў.

**Аляксей СТАЎСКІ**

## Літоўцы за «Пагоню»

Абодва прафесійныя саюзы літоўскіх журналістаў — Саюз літоўскіх журналістаў і Таварыства літоўскіх журналістаў — звярнуліся з адкрытым лістом да прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі, у якім выказваюць свой пратэст супраць закрыцця недзяржаўнай гродзенскай газеты «Пагоня».

У заяве Саюза літоўскіх журналістаў гаворыцца: «Свабодны друк з'яўляецца адным з гарантаў дэмакратыі. Таму закрыццё папулярнай беларускай газеты дазваляе рабіць выснову, што пэўныя структуры беларускай улады груба парушаюць прынцыпы дэмакратыі».

«Выступаючы супраць закрыцця па палітычных матывах незалежнай беларускай газеты «Пагоня», якое парушае замацаванае ў міжнародных прававых актах свабоду слова, патрабуем спыніць незаконнае ўшчамленне свабоды слова», — пішацца ў заяве Таварыства літоўскіх журналістаў.

**Сяргей ШУПА**

ЭКАЛОГІЯ

## Кадравы разгон у Белавежжы

Поўнаму складу салдацкай роты адпавядае колькасць звольненых працаўнікоў у Нацыянальным дзяржаўным парку «Белавежская пушча» пры новым тут генеральным дырэктары Мікалаі Бамбізе. Пасля разгону кадраў масавых прафесіяў распачаўся «адстрэл» каманднага складу. Літаральна кожны аддзел у адміністрацыі панёс страты, а планава-эканамічны — усім персаналам. Самы тытулаваны сярод беспрацоўных — кандыдат біялагічных навук, былы намеснік па навуцы Рыгор Казулька. Былы дырэктар пушчы Яўген Смактуновіч атрымаў ужо два дысцыплінарныя спагнанні, ад чаго патрапіў у цяжкім стане на больнічны ложак і толькі гэтым сумным чынам мае гарантыю захаваць за сабою пасаду галоўнага ляснічага да завяршэння тэрміну кантракта ў будучым годзе.

Скандалу непрымірымых з кадравай палітыкай новага «генерала» спадарожнічае атака пушчы караедам. Жучкі-грызуны горш чым пажар «спальваюць» да рыжага колеру стараўзроставыя елкі, утвараючы плямы смерці ў 600-гадовым лесе. І як адна з прычынаў канфлікту — зусім супрацьлеглыя падыходы кіруючага гаспадарніка і ягоных падначаленых да барацьбы з караедам. Карэнныя пушчанцы супраць суцэльнай высечкі ў Нацыянальным парку, бо караед тут быў заўжды і запаведная пушча на працягу стагоддзяў змагалася з ім сама. Вядучыя спецыялісты Беларусі ў галіне аховы лесу таксама патрабуюць спыніць леспрамгасаўскую чыстку. Але сякера ўзнесеная і валіць елкі для пражэрлівай камп'ютэрна-стужачнай піларамы.

**Мікола НЯЗЛОМНЫ**

АРХІТЭКТУРНЫЯ ЗВЕРСТВЫ




Помнік архітэктуры XVIII стагоддзя – былы касцёл францысканаў у Мінску – нявечаць «металачарапіцай» замест неабходнай дахоўкі

## Бетон укапалі на полі

Мала дзе прыжытая на Брэстчыне партініцыятыва даваць людскія прозвішчы сельскагаспадарчым палеткам дзіўным чынам актыўна ўвасабляецца яшчэ і зараз у калгасе-аграфірме «Малеч» Бярозаўскага раёна. Тут ужо ёсць «Машэрава гара», поле імя героя сацпрацы Цабрука, а ў цяперашні лістапад яшчэ адзін кавалак ворыва, узнятага на зябліва, нарачоны поўным прозвішчам і ініцыяламі касманаўта СССР У.Каваленка. На глыбокі ў глебе падмурак усталяваны бетонны пастамент з двума стылізаванымі скульптурнымі сілуэтамі маці і сына з сімваламі над іхнімі галовамі зорных арбітаў. Побач на слупах укапаная масіўная жалезабетонная паўсфера з адбіткам «залатой» зоркі і надпісу «імя У.Каваленка». На цырымонію адкрыцця гэтай кампазіцыі быў выкліканы з Масквы сам беларускі касманаўт №2.

Каб не ўзнікала пытанняў наконт выбранасці сярод прозвішчаў вялікіх для ўшанавання ў глыбінцы, патлумачым, што старшыня калгаса-аграфірмы «Малеч» Іван Данілевіч і генерал Уладзімір Каваленак займалі адну лаўку на дваіх у Авальнай зале, калі былі дэпутатамі Вярхоўнага Савета РБ.

**Надзея СВЯТЛІЧНАЯ**

ДУМКА

## Палітыка — не каштоўнасць

69% жыхароў Беларусі не лічаць палітыку, а 52% — рэлігію важнымі каштоўнасцямі ў сваім жыцці. Такія звесткі, атрыманыя падчас нацыянальнага апытання, якое правялі вучоныя Цэнтра сацыялагічных і палітычных даследаванняў Беларускага дзяржаўнага універсітэта ў рамках агульнаеўрапейскага даследавання каштоўнасцяў.

Былі апытаныя больш за тысячу жыхароў краіны 18 гадоў і старэй. Ім прапаноўвалася сказаць, наколькі важныя для іх асноўныя агульначалавечыя каштоўнасці. «Вельмі важнымі» або «хутчэй важнымі» для пераважнай большасці апытаных аказаліся сям'я (96%), праца (83%), вольны час і знаёмыя (78%), а таксама адпачынак (66%).

Як паведаміў БелаПАН кіраўнік даследавання, прафесар Давід Ротман, атрыманыя вынікі сведчаць, што ключавыя каштоўнасці беларускага насельніцтва — сям'я, праца і сяброўскія зносіны — за гады трансфармацыі грамадства не змяніліся. У параўнанні з савецкім часам узрасла каштоўнасць рэлігіі і рэзка знізілася каштоўнасць палітыкі.

**Леанід ІГНАЦЬЕЎ**

СУД

## Дыякана выратавала чужая кроў

У мінулую сераду ў зале Брэсцкага абласнога суда з-пад варты ў жалезнай клетцы быў вызвалены адразу пасля абвяшчэння апраўдальнага прысуду 38-гадовы Генадзь Калеснікаў. Цягам апошніх двух гадоў ён утрымліваўся пад арыштам па падазрэнні ў забойстве настаяцеля берасцейскай праваслаўнай Свята-Мікалаеўскай царквы а.Міхаіла Сацюка. Следчыя абласной пракуратуры сцвярджалі, што на допытах былы дыякан таго ж храма прызнаў сябе вінаватым. Але ўжо на першым судовым паседжанні абвінавачаны адмовіўся ад ранейшых словаў і сцвярджаў адваротнае. Тым не менш, год таму Генадзю Калеснікаву быў вынесены суворы вырак — 20 гадоў зняволення. На паўторным судзе ў кастрычніку 2001 года абвінавачванне патрабавала для Калеснікава ўжо 22 гады турмы. Зараз суд абвесціў, што Калеснікаў мусіць быць адпушчаны на волю. У зале шчаслівага святара, не пазбаўленага царквою свайго сана, абдымалі жонка, калега па духоўнай працы, два сваякі.

Па некаторых звестках, якія ўсё-такі прасачыліся з-за шчыльных дзвярэй суда, можна рабіць высновы, што піраміда следства рассыпалася пад вынікамі больш глыбокай паўторнай крыміналістычнай экспертызы. У прыватнасці, пад пазногцямі нябожчыка і на яго целе быццам бы знойдзеная кроў з іншым ДНК, чым у галоўнага падазронага ў ягоным забойстве.

**Галіна БАРАВАЯ**



## Каржакоў шукае праўду

Па эксклюзіўным кантракце з тэлеканалам НТБ былы начальнік службы бяспекі першага прэзідэнта Расіі Аляксандр Каржакоў удзельнічае зараз у здымках фільма, прысвечанага 10-годдзю развалу СССР. Сюжэтная лінія праекта пабудаваная на нібыта рассакрэчаных падрабязнасцях начной падзеі 8 снежня 1991 года ў знакамітай рэзідэнцыі Белавежжа «Віскулі». Аўтары сцэнару і адстаўны генерал-лейтэнант знайшлі ўзаемапаразуменне на задуме абвергнуць нібыта малапраўдзівыя факты пра адабранне ўлады ад Гарбачова ў тэлеверсіі «Цар Барыс» двух сваіх былых «шэфаў» – Ельцына з Крамля і Кісялёва з НТБ.

Цікава, што «выбіць» дазвол на здымкі скандальнавядомага цэлаахоўніка і вялікага сябра Лукашэнкі ў ягонай недаступнай зараз рэзідэнцыі НТБэшнікам удалося менавіта праз цяперашнія моцныя сувязі Каржакова. Ён зараз з'яўляецца намеснікам старшыні Камітэта па абароне ў Дзярждуме Расіі, ачольвае дзве расійскія ветэранскія арганізацыі службы бяспекі і спецслужбаў, федэрацыю сілавых двубояў.

**Надзея СВЯТЛІЧНАЯ**

## Парк імя першага Героя Беларусі

21 лістапада непадалёк ад вёскі Арабаўшчына Баранавіцкага раёна Брэсцкай вобласці прайшлі мерапрыемствы ў памяць пра першага Героя Беларусі Уладзіміра Карвата. Сёння тут адкрыты парк, пасаджаны ў гонар лётчыка.

У траўні 1996 года самалёт лётчыка-выпрабавальніка адной з беларускіх авіябазаў падчас трэніровачнага палёту практычна страціў кіраванне. Уладзімір Карват не катапультаваўся, а зрабіў усё неабходнае, каб адвесці самалёт ад вёскі. Машына ўпала на поле. Лётчык загінуў. Роўна пяць гадоў таму — 21 лістапада 1996 года — указам прэзідэнта Уладзіміру Карвату было пасмяротна прысвоенае званне Героя Беларусі. У памяць пра Карвата ў Арабаўшчыне і ў Брэсце, дзе нарадзіўся лётчык, яго іменем названыя вуліцы. Імя Карвата носіць і адна з брэсцкіх школ, а на бульвары Касманаўтаў абласнога цэнтра ўстаноўлены бюст лётчыка-героя. Ініцыятарам стварэння парку на месцы, дзе загінуў герой, сталі жыхары прылеглых вёсак і калегі лётчыка з 61-й знішчальнай авіябазы.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ**

МЯЖА

## Брузгі: з рук у рукі

19 лістапада на памежным пераходзе Брузгі міліцыя перадала паліцыі паляка-нелегала, які расшукваўся Інтэрполам.

39-гадовы Артур Томаш Друзгала з Кракава прыблізна два гады жыў у Гродне, займаўся аўтабізнесам. Ён выязджаў у Расію, але ў Польшчу — аніразу. Замежнік зацікавіў органы правапарадку. Аказалася, што ён мае падробнае пасведчанне шафёра на імя Лешака Хайто, ураджэнца Кракава з месцам жыхарства ў мястэчку Кнураў. У Гродне нелегал жыў у 22-гадовай каханкі.

Міліцыя супраць яго завяла крымінальную справу аб падробцы дакументаў. Высветлілася таксама, што яго шукае крымінальная секцыя гарадской паліцыі Кракава за здзейсненае ім злачынства. Пасля гэтага праз Генеральнае консульства РП у Гродне былі аформленыя дакументы на вяртанне А.Друзгалы ў Польшчу. Ён быў дастаўлены пад аховай у Брузгі, дзе яго перадалі польскай паліцыі. Польскаму нелегалу забаронены ўезд у Беларусь на тэрмін 10 гадоў. Адбываць пакаранне ён будзе ў польскай турме.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

## Са школы — у пятлю

Пакуль застаецца не даказанай ніводная з распрацоўваемых у Брэсцкай пракуратуры версіяў аб прычыне смерці 8-класніка СШ №30. У сераду, 21 лістапада, ён сышоў са школы пасля двух урокаў, а ў 18.10 міліцыянты дасталі яго з пятлі на шнурку ля смеццеправода на 11-ым паверсе жылога дома па вуліцы Кастрычніцкая рэвалюцыя, 3. Апытанне ў суседніх кватэрах дало, на жаль, не шмат інфармацыі, хаця малаверагодна, што хлапчук сам вырашыў звесці рахункі з жыццём, бо на целе нябожчыка засталіся сляды ад пабояў.

**Галіна БАРАВАЯ**

# Гадавіна «чырвонага» рэферэндуму

Заканчэнне, пачатак на стар.1

Наш урад атрымаў пасля прэзідэнцкіх выбараў поўную разруху. Нават гарэлка – тая, якая 80% сваёй цаны аддае ў бюджэт – была па картках. На працягу года ўсе асноўныя праблемы былі вырашаныя, і мы здолелі атрымаць крэдыт стэнд-бай МВФ у 1995 годзе. Гэты самы крэдыт, які і цяпер краіна не можа атрымаць.

Пасля майго сыходу стаў урад Лінга. Ён не мог зрабіць ніводнага кроку без узгаднення з адміністрацыяй прэзідэнта.



Ярмошын, канешне, быў вельмі моцны прафесіянал, ён добра ведаў эканоміку і справаваў нешта станоўчае зрабіць. Але і ён не мог зрабіць самастойных крокаў, не мог выйсці за свае рамкі.

Змена Ярмошына на Навіцкага – варыянт больш кепскі. Канешне, Навіцкі мае шмат добрых чалавечых якасцяў. Але гэта не тое, што трэба сёння.

Я бы сказаў, што цяперашні ўрад – менш прафесійны.

***– Ці задаволеныя вы гэтым перыядам у пяць гадоў, што прайшлі пасля вашай адстаўкі?***

– Я задаволеным быць не магу. Беларусь жа засталася чорнай плямай у цэнтры Еўропы.

Я ўжо падпісаў дзесяткі просьбаў да ўрадаў іншых краінаў з просьбай прадаставіць палітычны прытулак маладым людзям. Яны вельмі чакалі пераменаў, іх не адбылося, і вось цяпер яны з'язджаюць за мяжу. З'язджаюць таленавітыя, з'язджае эліта – і гэта трагедыя для краіны.

Цяпер мне ўвесь час ствараецца імідж крымінальніка. Жонка асуджаная на два гады, Сын за кратамі знаходзіцца. Ідзе бязмежжа, хлусня і фальш, але з цягам часу стане ж усё вядома.

Але я не збіраюся з'язджаць ні пры якіх абставінах. Я буду жыць і працаваць у Беларусі.

***– Ці магчыма, што на наступных прэзідэнцкіх выбарах вы зноў вылучыце сваю кандыдатуру?***

– Калі я пабачу, што няма іншага выйсця, што няма іншай годнай кандыдатуры. Мне непатрэбныя дзяржаўныя пасады. Калі ў краіне ўсё будзе добра, то Чыгір не прападзе. Я ведаю, як і дзе зарабіць грошы.

## Андрэй Саннікаў: «Нам трэба вучыцца жыць свабодна»

***– Давайце ўзгадаем падзеі пяцігадовай даўніны. Як вы можаце ацаніць падзеі канца 1996 года і ў гэтай сувязі вашую адстаўку разам з іншымі?***

– У 1996 годзе краіна рэзка скрочыла з нармалёвага шляху развіцця, і далей становішча толькі пагаршалася. Адбылася узурпацыя ўлады ў руках аднаго чалавека. Рэферэндум стаў рубяжом. Адбылося пагаршэнне становішча ва ўсіх накірунках: эканамічным, палітычным, у галіне правоў чалавека. На міжнароднай арэне таксама.

Я не магу сказаць, што сыходзіў разам з іншымі – я ішоў не ў звязцы. Мая адстаўка адбылася раней за іншыя.

Маё асабістае рашэнне пайсці не было вельмі простым. Але тады я зразумеў, што ўнутры гэтай сістэмы немагчыма чагосьці дамагчыся. І дагэтуль я не змяніў гэтага свайго меркавання.

Сапраўды, не адбываецца ніякіх станоўчых зменаў у людзях з афіцыйных структураў. Самі каштоўнасці, на якіх будуецца грамадства, дэвальвуюцца ў людзей сістэмы.

На сённяшні дзень я мяркую, што той мой крок – адзіны правільны для мяне асабіста на той момант.



Канешне, я мог бы атрымаць цёплае месцейка амбасадара дзенебудзь за мяжой. Але пра гэта я думаю з жахам.

***– Вы даволі даўно працавалі ў структурах МЗС, але чаму сышлі менавіта ў 1996-м?***

– Да таго часу заставаліся яшчэ нейкія спадзяванні. Пасля Дыпламатычнай акадэміі я пайшоў на працу ў МЗС БССР. Мне прапаноўвалі месца ў саюзным МЗС, але я працаваў менавіта тут. Таму што іншага не ўяўляў сабе.

Нельга паспяхова працаваць, калі жыццёвыя прынцыпы не адпавядаюць таму, што ты робіш. У лепшым выпадку можна толькі апраўдаць сябе, а ў горшым – стаць рабом, які працуе на хамскую ўладу.

***– Ці задаволеныя вы тым, як прайшлі апошнія пяць гадоў?***

– Ці задаволены я вынікамі гэтых пяці гадоў? Канешне, незадаволены, але прыкра не было. Не думаю, каб нехта быў задаволены. А ўвогуле сумныя ўсе асацыяцыі з рэферэндумам.

***– Што б вы сказалі сёння ўдзельнікам тых падзеяў 1996 года напярэдадні рэферэндуму, калі ледзьве не адбыўся імпічмент Лукашэнку?***

– Ну што я мог бы сказаць удзельнікам тых падзеяў? Што гэта была вельмі непрыглядная справа. Дарэчы, для кіраўніцтва Вярхоўнага Савета таксама.

Яны пайшлі на зговар, і не здолелі абараніць беларускую дзяржаву, беларускую дэмакратыю.

Да народа звяртацца – гэта ці то ў вакуум нешта казаць, ці то ў люстэрка. Але нам усім трэба вучыцца жыць свабодна – і гэта галоўнае, што можа змяніць наша жыццё. Гэта самае цяжкае і самае галоўнае.

## Аляксандр Сасноў: «Не мог выконваць дурных загадаў»

***– Як цяпер, праз пяць гадоў пасля вашай адстаўкі, вы ацэньваеце свой учынак? Можа, варта было застацца, каб нешта змяніць да лепшага?***

– Я так думаў, калі пагадзіўся пайсці ва ўрад, што можна нешта змяніць, нешта палепшыць. Але ўжо праз год я зразумеў, што нічога змяняць у тым напрамку, у якім мы дамаўляліся, не ўдасца. Ніхто, акрамя Лукашэнкі, нічога не можа змяніць. Усе чыноўнікі – ад міністраў і ніжэй – выконваюць толькі тое, што ім загадалі. Я ж прыслужвацца не збіраўся, не збіраюся і не буду ніколі.

***– Што вы можаце сказаць пра становішча ў Беларусі ў той час?***

– Тады паступова ішоў працэс адзяржаўлівання ўсяго. Я спрабаваў неяк пярэчыць тым захадам, якія ішлі ад прэзідэнта і ягонай адміністрацыі – але што такое міністр працы? Было некалькі фактаў, калі я пісаў адмоўныя рэзалюцыі на паперах, якія прыносілі да мяне – але іх усё роўна прымалі без мяне.

Гэта ішло толькі з прапановаў самога Лукашэнкі. І калі ён кажа, што ўрад там нешта недапрацаваў, губернатары недапрацавалі – гэта ўсё лухта. Таму што ўсе яны толькі выконваюць загады Лукашэнкі.

Што тычыцца рэферэндуму, то я бачыў – ідзе падрыхтоўка да фальсіфікацыяў, ціск на вертыкальшчыкаў усіх узроўняў. Да іх даводзіліся лічбы вынікаў рэферэндуму яшчэ да ягонага пачатку... Я ўжо тады разумеў, што вынікі будуць сфальсіфікаваныя.

Я лічу сваёй памылкай тое, што задоўга заставаўся ва ўрадзе. Трэба было сыходзіць яшчэ пасля першага рэферэндуму ў траўні 1995-га. Але спачатку не было зразумела, куды Лукашэнка павядзе краіну. Далейшы ход падзеяў паказаў, што я памыліўся, калі пагадзіўся працаваць з Лукашэнкам. З ім немагчыма працаваць, калі ты не можаш выконваць дурныя загады. Вось чаму я і ў арміі не застаўся – не магу выконваць дурныя загады.

Усе людзі ва ўрадзе, у каго былі нейкія свае думкі, меркаванні – яны сышлі пацiху. Засталіся толькі тыя, хто можа стаяць ля карыта і хрукаць аднолькава – як сказаў Лукашэнка калісьці пра сваіх паплечнікаў. Можа там і ёсць нядрэнныя людзі, але яны ніякія.

***– Што б вы, можа, хацелі сказаць удзельнікам таго ваколрэферэндумнага канфлікту – Лукашэнку, Вярхоўнаму Савету, расійскім «перамоўшчыкам», беларусам, якія прынялі вынікі рэферэндуму амаль без пратэстаў?***

– Краіна аднавіла незалежнасць, і хопіць працягваць гульні, якія могуць прывесці да яе страты. Вось і ўсё астатняе з гэтага вынікае.

**Гутарыў Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

## СВОЙ ГОЛАС

***— Хто з вядомых палітыкаў, на вашу думку, здольны сёння ачоліць апазіцыю?***



**Максім, працоўны з авіязавода:**
— На маю думку, на Беларусі няма дастойных палітыкаў увогуле. Кожны думае толькі аб сваёй кар'еры. І Лукашэнка ў тым ліку. Нешта ён можа і зрабіў, але вельмі шмат чаго не зрабіў.



**Аляксандр, кабельшчык:**
— Анатоль Лябедзька, лідэр Аб'яднанай грамадзянскай партыі. Малады палітык новага пакалення. Астатнія старыя ўжо ўсе, адыходзяць.



**Віктар:**
— Ой, якія вы пытанні нейкія, можна сказаць, непрыстойныя задаеце. Маё меркаванне такое, што прыстойны чалавек нават у палітыку не пойдзе.



**Уладзімір, сталяр:**
— Цяжкае пытанне... А вось я за Шушкевіча прагаласаваў бы, шкада, што ён збольшага адышоў ад палітыкі. Ён жа здаецца ў навуку падаўся? А так я за яго, інтэлігентны чалавек.



**Аня, студэнтка, працуе ў вясельным салоне:**
— На Беларусі яшчэ не выраслі тыя палітыкі, якіх бы я лічыла дастойнымі. Вось маё пакаленне... ці нават я – вырасту і стану прэзідэнтам. А калі сур'ёзна, то няма нікога.



**Васіль, педагог:**
— Складанае пытанне... Магчыма і напэўна гэта Сямён Домаш, бо Ганчарык сваёй кампаніяй сябе больш дыскрэдытаваў. Трэба такі чалавек, які б дзеянні апазіцыі скаардынаваў.



**Генадзь Уладзіміравіч, пенсіянер:**
— Дастойнага чалавека з апазіцыі? Вось Карпенка быў, ды яго не стала, ён быў найбольш моцны і таленавіты палітык. Шкада, але сярод моладзі я нікога не бачу.

**Зінаіда Антонаўна, пенсіянерка:**
— А я акрамя Зянона Пазьняка нікога не ведаю, але зараз і яго не падтрымліваю, бо ўжо не падтрымліваю апазіцыю.

**Апытанне праводзілі Аляксей ШЫДЛОЎСКІ і Уладзімір ШЛАПАК**

# Уначы з 21 на 22 лістапада Брузгі закрылі

Заканчэнне, пачатак на стар.1

Хаця нашы мытныя і памежныя ўлады заўжды зазначалі, што праз Брузгі ў абодвух накірунках за суткі праходзіць нават 2.400 аўтамабіляў. Між іншым, нашы шафёры скардзіліся менавіта на палякаў, што яны марудзяць, маючы пры гэтым на мяжы меней персаналу, чымсьці нашы.

Цяпер будзе яшчэ горш, прычым — значна. На гродзенскім участку мяжы з Польшчай, апроч Брузгоў, існуе толькі адзін пераезд «Бераставіца-Баброўнікі». Усе машыны зараз накіруюцца менавіта туды. 21-га я гутарыў з шаферамі ў Брузгах. Большасць з іх былі — гродзенцы. Яны гаварылі, што тысячы гараджанаў залежаць ад паездак у Польшчу. Тыя, хто гандлюе, вязуць тавар, прадукты, будматэрыялы. Іншыя — усё для рамонту і абсталявання жылля. У палякаў усё — танней.

Між іншым, жыхары Беласточчыны таксама вельмі ўстрывожаныя, што іхнія прыбыткі значна зменшацца. У першым, пасля Кузніцы, польскім мястэчку Саколка быў створаны Грамадскі камітэт пратэсту супраць закрыцця памежнага пераходу. Камітэт лічыць, што жыхары ваяводства страцяць мільярды злотых. Беластоцкія ўлады, аднак, заявілі, што закрыццё пераходу больш, чым на год было абавязковым. Інакш, маўляў, не ўдалося б цалкам выкарыстаць грошы, выдаткаваныя на будаўніцтва Еўрапейскім Саюзам. Сакольскі грамадскі камітэт, атрымаўшы адмову ў Беластоку, накіраваў свой пратэст у Варшаву — ва ўрад і ў парламент.

Ва ўсёй гэтай гісторыі ў ролі заступнікаў простага народа выступаюць беларускія ўлады. Гэтая выгадная роля ім дасталася без ніякай напругі. Маўляў, прапаноўвалі гэтым палякам розныя варыянты, каб злагодзіць праблему, а яны не захацелі. Так, прапанавалі нашы палякам прапускаць машыны ў іншым месцы на тэрыторыі Гродзенскага раёна. Аднак там не існуе нармальных умоваў.

А Бераставіца-Баброўнікі? Палякі летась часова закрывалі праезд у Кузніцы-Брузгах. Нашы, папярэджаныя загадзя, нават не падумалі штосьці ўдасканаліць у Бераставіцы, куды, як і сёння, тады быў накіраваны транспарт з Брузгоў. І сёлета нічога на КПП «Бераставіца» зроблена не было. Калі палякі даўным-даўно стварылі выдатны еўрапейскі тэрмінал у Баброўніках, нашы нічым не палепшылі прапускную магчымасць са свайго боку. Палякі, праўда, маюць іншую праблему — паміж Баброўнікамі і Беластокам вельмі кепская дарога.

31 снежня 2002 г. рух у Брузгах адновіцца. З польскага боку будзе створаны адзін з самых сучасных тэрміналаў для пропуску большай колькасці машын. Да гэтага часу ў Брузгах нашы і палякі ажыццяўлялі догляд машын сумесна. Праз год палякі будуць раскашаваць, а нашы мытнікі і памежнікі па-ранейшаму будуць мерзнуць на вуліцы. Нашы ўсё чакаюць фінансавання з Масквы, замест таго, каб сябраваць з заможнай Еўропай.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

# Недавер кіраўніцтву міністэрства спорту і НАК

Заканчэнне, пачатак на стар.1

Гэта алімпійскія чэмпіёны мінулых гадоў: Сядзяк, Клім, Шары, Камінскі, Папоў, выбітныя трэнэры. Маючы альтэрнатыўнае меркаваньне пра дзейнасьць міністэрства спорту, мы сталіся не да месца. Нас ужо неаднаразова спрабавалі «адлупцаваць», бо мы прапанавалі новую сыстэму кіраваньня спортам вышэйшых дасягненьняў. Але міністар і ягоныя намесьнікі спрабуюць ствараць вакуум вакол нас».

Яшчэ адзін з тых, хто на знак нязгоды кінуў выклік спартовым чыноўнікам — трохразовы алімпійскі чэмпіён у веславаньні Ўладзімер Парфяновіч. Пытаюся: як будзе адбывацца заўтрашні сход, ці можна чакаць, што гэтая праблема будзе вынесеная на прынцыповае абмеркаваньне? «Хто будзе выносіць? — вось у чым пытаньне, — адказаў ён. — Калі да «бацькі» дойдзе, можа, пытаньне і ўзьнікне. Калі гэта застанецца за кулісамі, дык і пытаньняў ня будзе ніякіх. У нас жа заўсёды ўсё ціха ды спакойна. Але скажу вось што: і Фель, і Сядзяк, і Тараненка — гэта асобы. І ацэньваць асобаў трэба інакш. Таму спачатку свае праблемы трэба было абмеркаваць у вузкім коле, каб вызначыць кропкі супрацоўніцтва. І ў гэтым пляне міністар памыліўся. Важна што? — каб каманда працавала. Калі няма каманды, працуй хоць 48 гадзінаў на суткі, сытуацыю ня зьменіш. Змрок наперадзе. Ніхто нічога ня ведае, ніхто ні з кім ня раіцца».

Адзін з самых выбітных беларускіх спартоўцаў, шасьціразовы чэмпіён сьвету Ігар Жалязоўскі таксама выказаў салідарнасьць з калегамі. «У дадзенай сытуацыі мне не зразумелыя дзеяньні міністэрства спорту адносна рады. Заслужаныя людзі хочуць дапамагчы арганізаваць працу дзяржаўнаму ведамству — прычым, абсалютна бясплатна. Няхай працуюць. Я добра знаёмы з нашам спортам і бачу, што праблемы ёсьць. Добрай аналітычнай працы ў спорце бракуе, і кансультацыйная рада магла б гэта рабіць. І я не разумею, чаму ідзе такі навал на адрас рады. Калі людзі прапануюць дапамогу — няхай працуюць!»

Выбітныя, вопытныя спартоўцы і трэнэры, якія дбаюць пра разьвіцьцё айчыннага спорту і бачаць яго пэрспэктыву ва ўдасканаленьні нацыянальнай школы ў розных відах, аказаліся не патрэбныя спорту. Чыноўнікі ж тым часам сьпехам цыруюць відавочныя дзіркі ў нацыянальнай дружыне, якая мае адстойваць годнасьць краіны ўжо праз два месяцы на зімовых алімпійскіх гульнях у Солт-Лэйк-Сіты, запрашаючы расейскіх спартоўцаў, якім не знайшлося месца ў сваёй зборнай.

Натуральна, гэтыя людзі тэрмінова атрымліваюць беларускае грамадзянства. Ужо сёньня вядома, што такіх новасьпечаных сяброў беларускай зборнай восем. І зьвесткі гэтыя не канчатковыя. Да таго ж плянуецца, што й спонсарамі беларускай каманды будуць выступаць расейскія вытворцы.

**Ігар КАРНЕЙ**
**Радыё СВАБОДА**

## ТЭНДЭНЦЫІ

# Беларускія прыцэлы — шведскім міратворцам

Шведскія «блакітныя каскі» са складу міжнароднага міратворчага кантынгенту ў былой Югаславіі атрымаюць на ўзбраенне аптычныя прыцэлы беларускай вытворчасці. Пра гэта ў інтэрв'ю БелаПАН паведаміў дырэктар навукова-вытворчага рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства «ЛЭМТ», доктар фізіка-матэматычных навук Аляксей Шкадарэвіч. Паводле яго словаў, адгрузка прыцэлаў заказчыку пачнецца ў бліжэйшыя дні.

Навукова-вытворчае рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Лазеры ў экалогіі, медыцыне, тэхналогіі» («ЛЭМТ») утворанае ў рамках Беларускага оптыка-механічнага аб'яднання («БелОМА») 9 гадоў таму. Сёння «ЛЭМТ» аб'ядноўвае тры канструктарскія бюро і дзве вытворчасці: доследную і серыйную. На прадпрыемстве працуюць каля 250 чалавек, сярэдняя заработная плата якіх вагаецца ад 230 тысяч (кваліфікаваныя рабочыя) да 270 тысяч (канструктары) рублёў. «ЛЭМТ» выпускае аптычныя, оптыка-электронныя, лазерныя прыборы і апараты як грамадзянскага, гэтак і ваеннага прызначэння. Аляксей Шкадарэвіч адзначыў, што «прадукцыя прадпрыемства адпавядае самым высокім міжнародным патрабаванням», невыпадкова 90 працэнтаў гэтай прадукцыі пастаўляецца на экспарт, прычым 50 працэнтаў аб'ёмаў экспарту — экспарт у высокаразвітыя краіны (ЗША, Вялікабрытанія, Швецыя, Паўднёвая Карэя і інш.).

Акрамя шведскага кантракта, прадпрыемства працуе над заказам для беларускай арміі — 7.000 сучасных аптычных прыцэлаў. «ЛЭМТ» распрацавала і вырабіла касмічны лазер-дальнамер для Кітая.

**Юрый КАСЬЯНАЎ**

# Да нас едзе АБСЕ

Асноўнай мэтай візіту ў Беларусь 25-27 лістапада членаў Рабочай групы Парламенцкай Асамблеі АБСЕ па Беларусі будзе ацэнка развіцця сітуацыі ў краіне пасля прэзідэнцкіх выбараў, а таксама дзейнасці Нацыянальнага сходу ў святле разгляду пытання аб прадстаўніцтве Беларусі ў ПА АБСЕ. У складзе рабочай групы Беларусь наведае Ута Цапф (Германія) і Урбан Алін (Швецыя).

Візіт будзе таксама прадстаўляць сабою этап падрыхтоўкі візіту ў Мінск Рабочай групы ПА АБСЕ па Беларусі ў поўным складзе ў студзені 2002 года напярэдадні правядзення зімовай сесіі парламенцкай асамблеі, дзе зноў будзе разглядацца заяўка Нацыянальнага сходу Беларусі на ўдзел у працы ПА АБСЕ.

Мяркуецца, што яны таксама правядуць сустрэчы з Кансультатыўна-назіральнай групай АБСЕ ў Беларусі.

**Андрэй АСМАЛОЎСКІ**

